# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№1 (248)

студзень 2023

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"



## У НУМАРЫ:

### Алег Латышонак узнагароджаны польскім медалём Стагоддзя аднаўлення незалежнасці краіны

Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда ўзнагародзіў 14 выбітных асоб дзяржавы медалём Стагоддзя аднаўлення незалежнасці краіны. Сярод узнагароджаных – беларуска-польскі гісторык, удзельнік змагання з камуністычным рэжымам у час "Салідарнасці" Алег Латышонак.

Старонка 2

### "Палітычныя" педагогі, што апынуліся за бортам прафесіі, аб'ядналіся ў Асацыяцыю

У Варшаве створаная Асацыяцыя падтрымкі настаўнікаў, выкладчыкаў, навукоўцаў, якія апынуліся ў групе рызыкі ў Беларусі. Гаворка ідзе пра спецыялістаў са сферы адукацыі, якія з-за палітычных рэпрэсіяў страцілі працу ў Беларусі, або былі эміграваць з краіны. Асацыяцыя плануе аб'яднаць тых, хто застаўся ў Беларусі, і тых, хто выехаў за мяжу.

Старонка 6



# У ВІЛЬНІ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ПАЎСТАНЦАЎ 1863-1864 ГАДОЎ

22 студзеня на віленскіх могілках Росы адбыліся ўрачыстасці ў гонар 160-гадовага юбілею пачатку паўстання 1863-1864 гадоў. У іх узялі ўдзел прэзідэнт Літвы Гітанас Наўседа, прэм'ер-міністарка Літвы Інгрыда Шыманітэ, лідарка дэмакратычных сілаў Беларусі Святлана Ціханоўская, прадстаўнікі каталіцкай царквы і дыпламатычнага корпусу.

Удзельнікі ўрачыстасцяў усклалі вянкі і кветкі да месца пахавання Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў у капліцы на могілках.

Арганізатары зрабілі ўсё, каб падкрэсліць еднасць лёсаў тых народаў, якія выступілі ў той час супраць Расійскай імперыі. Ля ўваходу ў капліцу, дзе пахаваныя каліноўцы, ганаровая варта трымала чатыры сцягі: літоўскі, польскі, украінскі і беларускі бел-чырвона-белы.

Працяг на старонцы 3.

навіны

# Алег Латышонак узнагароджаны польскім медалём Стагоддзя аднаўлення незалежнасці краіны

Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда ўзнагародзіў 14 выбітных асоб дзяржавы медалём Стагоддзя аднаўлення незалежнасці краіны. Сярод узнагароджаных – беларуска-польскі гісторык, удзельнік змагання з камуністычным рэжымам у час "Салідарнасці" Алег Латышонак.




Урачыстасць прайшла ў Прэзідэнцкім палацы ў Варшаве. Мерапрыемства падтрымалі музычна-літаратурнымі выступленнямі.

"Я шчыра ўсхваляваны такім знакам пашаны, – сказаў Латышонак "Радыё Р*ц**". – Скажу шчыра, што гэта ўзнагарода нечаканая. Я не думаў, што атрымаю яе. Нават думаю, што не заслужыў. Гэта не першы мой ордэн і медаль, але раней меў пачуццё, што неяк заслужыў гэта, а тут, мне здаецца, атрымаў таму, што я беларус, стараўся штосьці зрабіць на карысць Польшчы і Беларусі".

Алег Латышонак нарадзіўся ў 1957 годзе ў Эльблонгу, у сям'і беларускіх інтэлігентаў. Бацька Юры – выхадзец з Шаркаўшчыны на Віленшчыне (зараз Віцебская вобласць). Маці Вера – з роду Стоцкіх, з наднарваўскай вёскі Лука на Беласточчыне. У 1965 годзе сям'я Латышонкаў пераехала ў Беласток "да сваіх". У 1980 годзе скончыў гісторыка-філасофскі факультэт Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве. Вярнуўшыся ў Беласток, працаваў настаўнікам гісторыі ў сельскагаспадарчым механічным тэхнікуме ў Супраслі.

У 1982 годзе аршытаваны за дзейнасць у падпольным руху "Салідарнасць", восем месяцаў правёў у беластоцкім арышце. Пасля вызвалення выехаў у Кракаў, дзе працаваў у Кракаўскім гістарычным музеі і ў Інстытуце даследавання Палоніі (польскай дыяспары) Ягелонскага ўніверсітэта.

У канцы 80-х далучыўся да беларускага студэнцкага руху. Быў адным з заснавальнікаў беларускага рок-фестывалю "Басовішча" і аўтарам яго назвы. Сябра-заснавальнік нефармальнага Беларускага клуба, які займаўся падрыхтоўкай да палітычнай дзейнасці апазіцыйнай беларускай эліты.

У 1991 годзе вярнуўся ў Беласток і распачаў працу ў Музеі Войска Польскага, адначасова вёдучы актыўную грамадска-палітычную дзейнасць. У 1992-1994 гадах – старшыня Галоўнай Рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, адзінай партыі нацыянальнай меншасці ў Польшчы. У 1993-1997 гадах працаваў журналістам тыднёвіка "Ніва". З 1995 года – сябра Управы Беларускага саюза ў Рэспубліцы Польшча, з 1997-га – намеснік старшыні Цэнтра грамадзянскай адукацыі "Польшча – Беларусь". У 1998 годзе – суструальнік беларускага радыё "Рацыя".

У 1996 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю ва Універсітэце імя Мікалая Каперніка ў Торуні ("Беларускія вайсковыя фармаванні 1917-1923"). Разам з Яўгенам Міpановічам напісаў падручнік "Гісторыя Беларусі ад паловы XVIII да канца XX стагоддзя".

У 2007 годзе ва Універсітэце імя Мікалая Каперніка ў Торуні абараніў доктарскую працу "Ад русінаў белых да беларусаў. Вытокі беларускай нацыянальнай ідэі". У 2008 годзе перавёўся на Кафедру міжнародных адносін у Інстытуце гісторыі Беластоцкага ўніверсітэта. У гэтым жа годзе ўбачыў свет першы том зборy яго твораў на беларускай мове "Жаўнеры БНР".

З 1996 года – старшыня Беларускага гістарычнага таварыства, сябра Усходнеславянскай камісіі Польскай Акадэміі Умення і Камісіі славянскіх даследаванняў Камітэта гістарычных навук Польскай акадэміі навук.

У 2000 годзе ўганараваны адзнакай "Заслужаны дзеяч культуры". У 2008 годзе – Кавалерскім крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.

novychas.online

# Аксана Колб – пераможца ў намінацыі "Журналіст года-2022", Наста Лойка – праваабаронца года ў Беларусі

Назвалі лаўрэатаў Прэміі праваабарончай супольнасці Беларусі за 2022 год. Цырымонія адбылася ў Беларускім доме правоў чалавека ў Вільні.

Цяперашняя прэмія стала ўжо чатырнаццатай па ліку. У 2008-м годзе яе заснаваў "Праваабарончы альянс", з 2011 года прэмія прадстаўляе інтарэсы і меркаванне ўсей беларускай праваабарончай супольнасці.

На намінацыю "Журналіст/ка года" вылучаецца журналіст/ка альбо блогер/ка, які/якая цягам мінулага года найбольш актыўна і яскрава асвятляў/ла пытанні правоў чалавека ў Беларусі, альбо чые публікацыі, ТВ- ці радыёпраграмы мелі найвялікшы грамадскі рэзананс альбо ўплыў на вырашэнне праблем у галіне правоў чалавека і фундаметальных свабод у краіне.

Галоўны рэдактар газеты "Новы час" Аксана Колб была затрыманая 20 красавіка 2022 года. Ёй прад'явілі абвінавачанне ў "арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх". 15 чэрвеня спадарыню Аксану асудзілі на 2,5 гады "хіміі". Журналістка пакінула Беларусь.

У намінацыі "Праваабаронца года-2022" перамогу атрымала праваабаронца Наста Лойка.

Лаўрэата ў намінацыі "Праваабаронца года-2022" абвесціла прадстаўніца "Валанцёрскай службы Вясны" Любоў Ланіна. Па традыцыі, гэта робіць пераможца ў адпаведнай намінацы папярэдняга года. Але каардынатарка "Валанцёрскай службы Вясны" Марфа Рабкова, якая стала праваабаронцай года-2021, дагэтуль застаецца за кратамі.

Як адзначана, Наста зрабіла Вялікі ўнёсак у абарону правоў чалавека. За Насту ганаровы дыплом прэміі атрымала яе сяброўка Ксенія.

"Мне балюча атрымліваць прэмію за яе, бо Наста зараз у СІЗА. Але мне падаецца, што Наста б сёння сказала, што гэтая прэмія – у тым ліку гэта прызнанне ўсіх праваабаронак".

budzma.org

навіны

# У ВІЛЬНІ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ПАЎСТАНЦАЎ 1863-1864 ГАДОЎ

Працяг са старонкі 1.

Гэтая тэма гучала і ў прамовах выступоўцаў, якія прадстаўлялі гэтыя народы.

Гітанас Наўседа падкрэсліў, што ў нашым рэгіёне гэта была самая працяглая ўзброеная барацьба супраць Расійскай імперыі ў XIX стагоддзі, якая аб'яднала народы з агульным гістарычным досведам. “У гэтай капліцы пахаваны правадыры і ўдзельнікі паўстання – толькі малая частка тых, хто аддаў свае жыцці ў няроўнай барацьбе з маскоўскім зміем… Не толькі сёння, але заўсёды яны заслугоўваюць нашай павагі і ўдзячнасці, як самы яскравы сімвал свабоды і самаахвяравання”, – казаў ён у сваім выступе.

Наўседа таксама працытаваў словы аднаго з кіраўнікоў паўстання, ураджэнца Вальні Зыгмунта Серакоўскага, якія той прамовіў, ужо стоячы пад шыбеніцай на Лукішках: “Я не згодзен! Я пратэстую!” “Спробы расійскага рэжыму перапісаць гісторыю і адмаўляць нацыянальную ідэнтычнасць украінцаў сведчаць аб тым, што свабода па суседстве з тыраніяй не з'яўляецца чымсьці відавочным, – працягнуў Наўседа. – Не пагаджайцеся і не падпарадкоўвайцеся, як гэта калісьці зрабіў Зыгмунт Серакоўскі!”

Амбасадарка Польшчы ў Літве Уршуля Дарашэўска казала, што хоць паўстанне і пацярпела вайсковую паразу, але яно застаецца жывым прыкладам барацьбы за свабоду, дае мужнасць і процістаіць расійскай тыраніі.

Амбасадар Украіны ў Літве Пётр Бешта падкрэсліў, што паўстанне вучыць таму, што кожная бітва – гэта крок да незалежнасці. Ён таксама звярнуў увагу на тое, што 160 год таму ў паўстанцаў не было такой моцнай міжнароднай падтрымкі, якая ёсць цяпер ва Украіны.

Святлана Ціханоўская, у сваю чаргу, казала, што мэты паўстанцаў трэба адстойваць безупынна – калі імперыя грукаецца ў наш дом і імкнецца нас знішчыць ці падпарадкаваць. Сіла паўстанцаў, якую яны знайшлі, каб процістаяць імперыі, казала яна, гэта тая сіла, якую яны перадалі нам праз паўтара стагоддзі. Гэтая сіла, падкрэсліла яна, – у любові да сваёй зямлі, да свайго народа. Гэтая сіла – у свабодзе, гэтая сіла – у смеласці, якую кожны з нас здольны знайсці ў сабе, каб здзейсніць подзьвіг. Завяршыла Святлана Ціханоўская сваю



прамову спасылкай на словы Кастуся Каліноўскага, якія яна адзначыла як нацыянальную ідэю Беларусі: “Толькі тады, народзе, зажывеш шчасліва, калі над табой не будзе чужой улады”.

Усе прамовы, з якімі высокія госці мерапрыемства выступалі ў памяшканні капліцы, трансляваліся на вялікія экраны, усталяваныя звонку, каб іх мелі магчымасць пабачыць і пачуць тыя, хто сёння прыйшоў на Росы ўшанаваць памяць паўстанцаў.

Сярод прысутных найбольшай колькасцю была прадстаўлена беларуская дыяспара, якая пражывае ў Вільні.

Сённяшнія ўрачыстасці на Росах – не апошнія мерапрыемствы, прымеркаванае да юбілею пачатку паўстання. У аўторак у віленскім Палацы вялікіх князёў літоўскіх адбудзецца дыскусія: “Чатыры народы пра паўстанне”, дзе са сваімі прамовамі выступяць прадстаўнікі Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны.

**Яўген Красулін, novychas.online**

# У ЦЮРЫХУ АДБЫЎСЯ ХАТНІ КАНЦЭРТ ЗМІТРА ВАЙЦЮШКЕВІЧА

15 студзеня беларуская дыяспара ў Швейцарыі святкавала Каляды разам з – як ён сам пра сябе кажа – “легендарным і харызматычным музыкам Змітром Вайцюшкевічам”. На беразе прыгожага Цюрыхскага возера ў невялікім, утульным памяшканні сабраліся дарослыя і дзеці, каб не проста паслухаць песні, але і заспяваць іх разам з музыкам.

Зміцер Вайцюшкевіч чацвёрты раз у Швейцарыі на запрашэнне беларускай дыяспары і ўласна сяброўкі сям'і Вольгі Крук. Вольга з мужам пераехалі ў Швейцарыю ў 2015 годзе. Краіна ім падабаецца, але ўсё роўна, такога адчування дому, як у Беларусі няма. Вольга кажа, што заўжды будзе там чужынка.

Колькасць гасцей уразіла і музыку і арганізатараў, якія не чакалі, што прыедзе так шмат людзей. Ехалі адусюль. Адна польска-беларуская сям'я спецыяльна на канцэрт прыехала з Нямеччыны. Але месца і пачастункаў хапіла ўсім. Беларускае свята аказалася інтэрнацыянальным. Там былі ўкраінцы, палякі, ірландцы, швейцарцы, рускія і казах.

Пасля канцэрту Зміцер Вайцюшкевіч, якога госці доўга не адпускалі і некалькі разоў прасілі выканаць на біс любімыя песні, падзяліўся сваімі ўражаннямі. Музыка сказаў, што шчаслівы ад поўнай залы і колькасці дзяцей. І ад таго, што можа несці радасць, родную мову і музыку. Маўляў,



гэта тэрапія мастацтвам у змрочны для ўсіх час.

Госці разыходзіліся ў добрым святочным настроі, абменьваліся кантактамі, дамаўляліся сустрэцца на канцэрце Naviband, якіх чакаюць у Швейцарыі ў наступным месяцы. На беразе прыгожага Цюрыхскага возера паступова сціхалі гукі беларускай мовы і песень. Але ў сэрцах беларусаў працягвала гучаць і жыць Беларусь.

**radiounet.fm**

грамадзянства

# ПАЗБАЎЛЕННЕ ГРАМАДЗЯНСТВА – ПРЫЗНАННЕ БЯССІЛЛЯ РЭЖЫМУ

*"Рэжым не можа атрымаць чалавека ў сваё распараджэнне, не можа яго пакараць, адпаведна, адзінае, што яму застаецца, сказаць: беларус, ты цяпер не беларус", – лічыць юрыст Алесь Міхалевіч.*



Лукашэнка асабіста будзе прымаць рашэнне аб пазбаўленні грамадзянства беларусаў па нараджэнні, якія асуджаныя за "экстрэмізм". Кожны выпадак будзе разглядаць адмысловая камісія, але канчатковае рашэнне застаецца за беларускім правіцелем. Менавіта так апісала механізм пазбаўлення беларусаў грамадзянства "дэпутатка" Лілія Ананіч. Паводле яе слоў, новы закон аб грамадзянстве павінен уступіць у сілу з ліпеня 2023 года.

"Трохі вышэй за Бога" – так калісьці выказваўся пра Лукашэнку былы старшыня брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар. Калі і не моцна пацешыў самалюбства свайго начальніка, то ягоную сутнасць падмеціў дакладна: жаданне распараджацца чужымі жыццямі Лукашэнка дэманструе ад самага пачатку, па гэтай прычыне, відаць, дагэтуль і не адменена смяротнае пакаранне.

Але "беглыя", як Лукашэнка грэбліва называе тысячы беларусаў, якія мусілі шукаць паратунку ад рэпрэсій за мяжой, знаходзяцца па-за межамі фізічнай дасяжнасці: кінуць у турму рэжым іх не можа, а на падманныя заклікі вяртацца "на каленях" яны не вядуцца.

І што застаецца? Правільна – забраць грамадзянства: не ўкушу, дык пагаўкаю. Аднак ва ўсёй гэтай гісторыі ёсць цікавыя падводныя камяні. Пра іх і запыталі ў адваката Алеся Міхалевіча.

– Вацлаў Гавэл калісьці напісаў знакамітае эсэ "Сіла бяссільных". Дык вось, з майго пункту гледжання, рэжым распісаўся ва ўласным бяссіллі, прыняўшы гэты закон. Атрымаць беларусаў у сваё распараджэнне рэжым не можа: увесь цывілізаваны свет па правілах экстрадыцыі нікога не выдасць.

Я падымаў пытанне, чаму Расійская Федэрацыя выдала Юрыя Зянковіча (юрыст Юрый Зянковіч асуджаны па "справе змоўшчыкаў" на 11 гадоў калоніі) без экстрадыцыйнага працэсу – гэта парушэнне не толькі расійскага Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, гэта парушэнне ўсяго. Бо Расія – асобная дзяржава, Беларусь – асобная дзяржава, а таму павінна была быць юрыдычная працэдура экстрадыцыі. Юрыя Зянковіча, як я разумею, перасадзілі з машыны ў машыну і аддалі ў лапы беларускіх органаў. ФСБ Расіі на запыт расійскага адваката, які прадстаўляў нашу пазіцыю ў РФ, адказала, што існуе нейкая сакрэтная дамова паміж КДБ і ФСБ, паводле якой яны і дзейнічаюць.

Пра што гэта я? Фактычна ніводная краіна, за выключэннем Расіі, сёння не выдасць Беларусі нікога. Нават цяжка мне ўявіць, што некага ў Беларусь экстрадуе Грузія, Арменія ці нават Азербайджан, які сам далёкі ад еўрапейскіх прававых стандартаў.

Так што, паўтаруся, гэты закон – распісванне ва ўласным бяссіллі: беларускі рэжым не можа атрымаць чалавека ў сваё распараджэнне, не можа яго пакараць, адпаведна, адзінае, што яму застаецца, сказаць: беларус, ты цяпер не беларус.

**– І тым не менш, нават знаходзячыся ў іншай краіне, беларус мусіць вырашаць юрыдычныя праблемы, звязаныя з пазбаўленнем грамадзянства…**

– Паўстае пытанне: як доўга чалавек будзе захоўваць беларускі пашпарт? Як мы ўжо ўбачылі, беларускі рэжым можа падаваць заяўкі на прызнанне страчаных дакументаў, не ануляваных, а "страчаных". (У канцы снежня кіраўніцу цэнтра грамадзянскіх ініцыятыў "Наш дом" Вольгу Карач знялі з самалёта ў Рыме пры спробе сесці на рэйс у Бухарэст. Паводле паведамленняў медыяў, яе пашпарт аказаўся анулявaным, а ў базе даных Інтэрпола дакумент значыўся як скрадзены. – "НЧ") Прыклад Вольгі Карач, як я зразумеў, першая ластаўка, прэцэдэнт, пасля якога пойдуць наступныя кейсы.

Але любая еўрапейская краіна, ЗША, Канада, Аўстралія будуць даваць такому чалавеку прытулак. Калі чалавек мае пастаянны від на жыхарства ў гэтай краіне, як правіла, усе краіны маюць так званы "трэвел дакумент нябежанца" – для людзей, якія па нейкіх прычынах не могуць атрымаць пашпарт сваёй краіны.

**– Статус бежанца атрымліваць неабавязкова?**

– Статус бежанца неабавязковы, таму што ёсць трэвел дакумент для асоб без грамадзянства, які выдаецца фактычна ўсімі краінамі. У Эстоніі, Латвіі жыве процьма людзей, якія не атрымалі грамадзянства: іх продкі не пражывалі ў незалежнай Эстоніі, Латвіі, а самі яны не захацелі здаваць экзамен па мове, але маюць магчымасць спакойна ездзіць, а некаторыя краіны, нават Расія, даюць ім бязвізавы рэжым.

Адбіранне грамадзянства створыць вельмі маленькія праблемы ў параўнанні з тымі праблемамі, якія рэжым хацеў стварыць.

Афіцыйны Мінск не можа рабіць запытаў пра тое, што чалавек пазбаўлены грамадзянства. У чалавека ёсць легальны беларускі пашпарт, які мае канкрэтны тэрмін дзеяння. Калі тэрмін дзеяння гэтага дакумента выйшаў, то ён мусіць праінфармаваць краіну знаходжання, што ўжо не грамадзянін Беларусі. Беларуская дзяржава ў гэтым плане мае вельмі абмежаваныя магчымасці, тым больш што перад пазбаўленнем чалавека грамадзянства яго мусяць абвясціць злачынцам у адпаведнасці з адным з палітычных артыкулаў Крымінальнага кодэкса. А ўсе артыкулы палітычныя…

Скажу так: большасць маіх кліентаў-расійцаў былі б шчаслівыя, каб Расія пазбавіла іх грамадзянства. Але Расія прынцыпова не пазбаўляе іх грамадзянства, нават калі чалавек просіць.

У Беларусі выхад з грамадзянства – таксама вельмі складаная працэдура, якая займае вельмі шмат часу. Калі чалавек захоча выйсці з беларускага грамадзянства, то яму давядзецца вельмі напружыцца: сабраць цэлую кучу паперак з падатковай інспекцыі, з ваенкамата, а пасля дзяржорганы доўга-доўга будуць разглядаць справу. А тут дзяржава сама кажа: мы рашылі, што вы не грамадзянін, і пазбаўляе грамадзянства адным махам. Але адначасова дзяржава прызнае, што чалавек – злачынца, і ён мусіць адседзець. А гэта значыць, што ёсць дакумент, які пацвярджае ці даказвае яго наўпроставыя сувязі з Рэспублікай Беларусь. Я заўсёды жартаваў, што з'яўляюся адным з палітыкаў, які меў дакументальнае прызнанне таго, што я патрэбны Рэспубліцы Беларусь: РБ патрабавала маёй экстрадыцыі з Чэхіі і напісала, што я ёй вельмі патрэбны.

**– Беларускі пашпарт выдаецца на 10 гадоў. Да прыкладу, чалавек атрымаў пашпарт у 2023 годзе і тады ж выехаў з краіны. Пашпарт беларуса дзейнічае да 2033 года., але ўлады пазбаўляюць яго грамадзянства…**

– Але з пашпартам на руках вы лічыцеся грамадзянінам Беларусі, і Літва будзе прызнаваць вас як грамадзяніна Беларусі. Дакладней, Літва будзе прызнаваць ваш пашпарт.

**– І пашпарт будзе з'яўляцца законным дакументам, які сведчыць асобу?**

– Беларускі пашпарт будзе заставацца законным дакументам. На гэтым і пабудавана ўся міжнародная супраца па крымінальных справах: максімум, што можа дзяржава, дык толькі прасіць іншую дзяржаву пра штосьці. Суверэнітэт Рэспублікі Беларусь заканчваецца на Гудагаі, а ўжо ў Кяне суверэнітэт Рэспублікі Беларусь не дзейнічае.

Забраць беларускі пашпарт у чалавека беларуская дзярджава самастойна не можа. Яна мусіць звярнуцца ў кампетэнтныя органы Літвы, а кампетэнтныя органы Літвы афіцыйнаму Мінску не давяраюць. Таму рэжым і злуе, таму і прымае ўсе гэтыя законы (пра пазбаўленне грамадзянства, пра завочныя прысуды, пра завочную канфіскацыю маёмасці). Гэта нагадвае дзіцёнка, які, робячы няўклюдныя рухі, намацвае межы дазволенага, эксперыментуе над тым, што эфектыўна, што неэфектыўна, што працуе, а што не. Так і лукашэнкаўскі рэжым прамацвае: а раптам мы знойдзем тое, што ім будзе балець?

Думаю, што не знойдуць.

навіны

# БЕЛАРУС АТРЫМАЎ "ЗОЛАТА" Ў ПРЭСТЫЖНЫМ БРЫТАНСКІМ КОНКУРСЕ ЗА ДЫЗАЙН УПАКОЎКІ ПІЦЫ

Праекты, у якіх працуе беларускі графічны дызайнер Аляксей Лімонаў, другі год запар атрымліваюць прэстыжную брытанскую прэмію World Brand Design Society Awards у сферы камерцыйнага дызайну.

Аляксей Лімонаў – беларускі графічны дызайнер і ілюстратар. Скончыў Акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці "Графічны дызайн". Шматразовы ўладальнік узнагарод міжнародных конкурсаў ЗША і Еўропы. Аўтар абноўленага лагатыпа Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, а таксама іх праекта з арт-маскамі.

Яшчэ летась Лімонаў атрымаў прэмію *World Brand Design Society Awards* (Лондан), якой адзначаюць у тым ліку ўдалыя распрацоўкі ў камерцыйным дызайне па ўсім свеце. У журы конкурсу ўваходзяць дызайнеры, крэатыўныя дырэктары, вядомыя студыі, буйныя вядучыя кампаніі свету.

### За што Аляксей Лімонаў атрымліваў прызы

"Летась я атрымаў два "срэбры" за ўпакоўку праекта *MoDo Alice* ад кампаніі *Modum* і за праект упаковак *Art Sponges*", – дзеліцца Аляксей. Самі мачалкі былі прыдуманыя для конкурсу *Rijksstudio Award 2020* ад вядомага музея Амстэрдама. Ідэя Лёшы Лімонава – аб'яднаць простую вяхотку і геніяльныя шэдэўры.






А па выніках 2022 года праект студыі *W Design Bureau* у складзе Яўгена Высаты (крэатыўны дырэктар) і Аляксея Лімонава (графічны дызайнер) атрымаў адразу два "золаты" ў намінацыях "Дызайн упаковак" і "Фірмовы стыль" за праект упакоўкі для брэнду *EazzyPizzy*.

"*EazzyPizzy* – гэта дастаўка страў і напояў ад сеткі кавярань "Шакаладніца", – расказвае дызайнер. – Галоўная іх фішка – мікс смакавых спалучэнняў. У фірмовым узоры можна ўбачыць кавалачак піцы з апельсінам, шарыкі марожанага з таматам, плаўлены сыр і салодкі крэм, трускаўку і салямі".

### Дарэчы, вось яшчэ прыемныя навіны пра беларускіх дызайнераў

Міжнародная супольнасць, якая робіць зрэз індустрыі дызайну ўпакоўкі за кожны год, адбірае знакавыя, папулярныя, крэатыўныя работы за год і фармуе з іх *Top Packaging Projects of 2022*. Па выніках 2022 года яны зрабілі топ-50, куды трапілі імёны двух беларускіх дызайнераў: тая самая праца студыі *W Design Bureau* (Аляксея Лімонава і Яўгена Высаты) для *EazzyPizzy*, а таксама фірмовы стыль для аднасоладавага віскі з вострава Айла аўтарства яшчэ аднаго беларуса – Алега Захарэвіча.

**CityDog.io**

# БЕЛАРУСЫ САН-ФРАНЦЫСКА ЎПЕРШЫНЮ АЖАНІЛІ ЦЯРЭШКУ Ў ЗША

Сяржук Доўгушаў правёў інтэрактыўную калядную праграму з суполкай беларусаў Сан-Францыска. Упершыню ў Злучаных Штатах зладзілі ўнікальны беларускі абрад "Жаніцьбы Цярэшкі".

У мясцовым клубе сабралася беларуская моладзь і жанатыя пары, якіх "неўзапраўду" жанілі "бацькі" Сяржук Доўгушаў і Надзея Нортан. Дзяўчаты перапапрануліся ў нацыянальныя строі выбіралі сабе пару з хлопцаў. А потым пары з бацькамі танцавалі "Лявоніху", "Суботу", гралі ў "Падушачку", "Бабыля" і, вядома, "Вішаньку", калі князь (хлопец) падскоквае, каб пацалаваць сваю князёўну.

Арганізатарам удалося стварыць беларускую калядную атмасферу, дзе задаваленне атрымалі дзеткі, бацькі, усе, хто далучыўся. Частавалі гасцей беларускімі стравамі, бабкай, халадцом ды капустай з каўбаскамі, і нават самаробнай крамбамбуляй. Быў зладжаны невялічкі аўкцыён у падтрымку Арт-рэзідэнцыі "Дом творцаў". На цэлы вечар беларусы з-за акіяна перанесліся ў Беларусь, адчулі сябе дома, гулялі, спявалі ды танчылі, як гэта рабілася стагоддзямі ў калядны час.

**budzma.org**



навіны

# “Палітычныя” педагогі, што апынуліся за бортам прафесіі, аб’ядналіся ў Асацыяцыю

У Варшаве створаная Асацыяцыя падтрымкі настаўнікаў, выкладчыкаў, навукоўцаў, якія апынуліся ў групе рызыкі ў Беларусі. Гаворка ідзе пра спецыялістаў са сферы адукацыі, якія з-за палітычных рэпрэсіяў страцілі працу ў Беларусі, а многія вымушаныя былі эміграваць з краіны. Асацыяцыя плануе аб’яднаць тых, хто застаўся ў Беларусі, і тых, хто выехаў за мяжу.



Пра мэты і планы Асацыяцыі пагаварылі з яе кіраўніком Паўлам Царашковічам, які і стаў ініцыятарам гэтага аб’яднання.

**– Каму і якім чынавм Асацыяцыя плануе аказваць дапамогу?**

– Усё залежыць ад таго, дзе знаходзіцца чалавек. Калі спецыяліст у сферы адукацыі згубіў працу ў Беларусі, то будзем шукаць магчымасці дапамагчы яму застацца ў прафесіі, не страціць кваліфікацыю. Гэта магчыма шляхам далучэння да праграм дыстанцыйнага навучання ў якасці выкладчыка – першы варыянт. Другі варыянт – далучэнне чалавека да даследчага праекта: будзем шукаць такія спосабы. А ў перспектыве разглядаем верагоднасць самім ствараць важныя і запатрабаваныя праекты. Гэта ў тым выпадку, калі Асацыяцыя будзе развівацца і з’явіцца Фонд дапамогі.

Калі настаўнік, выкладчык апынуўся за мяжой, то першае, чым мы плануем (пакуль мы нічога не можам, ёсць толькі адпаведныя напрацоўкі) дапамагчы, – пацвердзіць статус. Гэта вельмі і вельмі істотна. Існуюць міжнародныя арганізацыі дапамогі, якія павінны гэта рабіць. Але праблема разраслася да неверагодна вялікіх памераў, таму яны збольшага занятыя афганцамі і ўкраінцамі, і ў іх папросту не хапае часу на беларусаў. Мы вырашылі: раз так, самі зоймемся гэтым. І будзем выдаваць адпаведныя сертыфікаты: у Германіі такі рэкамендацыйны ліст папросту абавязковы, у другіх краінах дапамагае, калі падаешся на гранты, заяўкі на стыпендыі. Ва ўсіх выпадках карысна падчас легалізацыі.

Другі крок адрасуецца тым настаўнікам і выкладчыкам, у якіх былі лічаныя гадзіны, каб пакінуць Беларусь. Натуральна, людзі не паспелі зрабіць апастыль, таму ў замежжы сутыкаюцца з непрызнаннем дыпломаў. Зноў-такі нашая Асацыяцыя займаецца і гэтай праблемай.

Безумоўна, будзем рыхтаваць людзей да таго, як самастойна шукаць гранты, стыпендыі, магчымасць працаўладкавання. Таму адзін з першых крокаў, якім мы зараз робім, – стварэнне віртуальнай электроннай пляцоўкі “Адукацыйны кірмаш”, дзе маглі б сустракацца працадаўцы (ужо ёсць інстытуцыі, якія даюць адукацыйныя паслугі, але яны малавядомыя), тыя хто шукае працу (настаўнікі, выкладчыкі, навукоўцы), і дзеці, ці, хутчэй, іхнія бацькі. На адной пляцоўцы мы хочам сабраць усіх гульцоў са сферы адукацыі. Пры падрыхтоўцы канферэнцыі ў Варшаве стварылі чат канферэнцыі, ён застаўся жывым і працуе ў якасці прататыпу такой пляцоўкі.

Гэта неадкладныя праблемы, якімі, па нашай задуме, зоймецца Асацыяцыя. А на перспектыву мы плануем працаваць над рэформай адукацыі ў Беларусі. Канчатковая мэта – далёкая: вярнуцца ў Беларусь і на базе Асацыяцыі стварыць Грамадскую раду пры міністэрстве адукацыі. Але ні ў якім разе не будзем звязвацца з дзяржавай: мы бачым сябе ў якасці незалежнай арганізацыі, якая будзе стаяць паміж сістэмай адукацыі і насельніцтвам.

**– Асацыяцыя аб’ядноўвае спецыялістаў у сферы адукацыі, якія апынуліся за бортам прафесіі па палітычных прычынах. Ці ўяўляеце вы маштабы праблемы?**

– На жаль, дакладных лічбаў пацярпелых яма, але гаворка ідзе пра сотні чалавек. Людзі, якія засталіся ў Беларусі, баяцца ўголас казаць пра свае праблемы, таму што публічныя выступы могуць прывесці да далейшых рэпрэсій. З іншага боку, значная частка тых, хто апынуліся за мяжой, найперш разлічваюць на дапамогу сяброў і знаёмых. Таму нашая мэта – стварыць інстытуцыю, якая аб’ядная ўсіх, каб супольна вырашаць агульныя праблемы.

**– Якім чынам можна звязацца з Асацыяцыяй і атрымаць дапамогу?**

– Пакуль што толькі персанальна са мной. Як толькі мы створым сайт, тут жа дамо кантакты ў публічную прастору.

sn-plus.com

# Беларуса Віталя Алексяёнка прызначылі галоўным запрошаным дырыжорам у сіцылійскі Teatro Massimo Bellin

Пра прызначэнне дырыжор паведаміў у сваім фэйсбуку.

“З вялікай радасцю хачу паведаміць вам, што мяне прызначылі галоўным запрошаным дырыжорам тэатра Масіма Беліні ў Катаніі (Сіцылія)! Мы ўжо выступалі разам на мінулым пераднавагоднім канцэрце і таксама адкрывалі цяперашні сімфанічны сезон. І цяпер гэты выдатны аркестр, увесь калектыў тэатра і я працягнем працаваць разам на сталай аснове”, – падзяліўся Віталь Алексяёнак. У 2021 годзе Віталь Алексяёнак сенсацыйна перамог на конкурсе імя Артура Тасканіні. З італьянскай Пармы ён прывёз не толькі першае месца, але і прыз глядацкіх сімпатый. Таксама дырыжор працаваў у Міланскім Ла-Скала, дзе паставіў (!) оперу П’еранжэла Вальтыноні “Маленькі прынц”. А напрыканцы 2022 года Віталь быў запрошаны на працу ў Нямецкую оперу на Рэйне.

budzma.org



гісторыя

# ВЯРТАННЕ ТОДАРА МАЗУРЫ: ДАКАЗАНА, ШТО ЁН АЎТАР АПОВЕСЦІ “ЖАН І ЖАК, АЛЬБО ПАДРОБЛЕНЫ РАЙ”

Новы год пачаўся з працягу вайны зусім побач і гвалту на радзіме. Пры гэтым пэўныя дробныя цуды таксама працягваюць здарацца і выратоўваць нас ад татальнага шаленства. Так, у самым пачатку 2023 года якраз адзін такі навагодні цуд здарыўся са мною, калі я корпаўся ў архівах Скарынаўкі ў Лондане.



JEAN ET JACQUES

ou

LE FAUX PARADIS..

par [redacted].

N. Niva.

Але, канечне, гэты цуд тычыцца ўсіх беларусаў-ак, беларускай і нават франкамоўнай літаратуры. Нарэшце, знайшоўся доказ таго, што Тодар Мазура з’яўляецца аўтарам аповесці ці, паводле ягонага азначэння, апавядання па-французску *Jean et Jacques ou le faux paradis* (“Жан і Жак, альбо Падроблены рай”) – аб жыцці і пошуках савецкага беларуса, які апынуўся ў выніку Другой сусветнай вайны на Захадзе. Пад псеўданімам N. Niva хаваўся невядомы дасюль пісьменьнік і грамадскі дзеяч Тодар ці Хведар Мазура (1921 – пасля 1990 г.).

З 2015 года, калі ў архівах Скарынаўкі быў знойдзены друкапіс аповесці па-французску, напісанай беларусам, актыўна вяліся пошукі аўтара. Першапачатковая версія аўтарства Тодара Мазуры ставілася пад сумнеў многімі дыяспарнікамі. Ліставанне з Янкам Запруднікам у 2015-2016 гадах не праясніла сітуацыі, хоць сп. Янка катэгарычна “не адмаўляў дачынення Т. Мазуры да чаго б там ні было, бо, як паказалі ягоныя постлювенскія крокі, ён быў асобай скрытай у сабе”. Таксама Я. Запруднік пазначыў, што раней ужо нехта цікавіўся гэтым тэкстам, але пошукі былі спыненыя.

Друкапіс быў знойдзены сярод архіваў Л. Гарошкі, але спрычыненасць выбітнага святара і дыяспарніка да дадзенага тэксту была адкінутая адразу як беларус-к-амі дыяспары, так і ў выніку прачытання тэксту: стылістычна, моўна тэкст належыў пяру іншай асобы. Тым не менш менавіта знаходка тэксту ў скрынях архіваў Льва Гарошкі прывяла мяне да дакладнай ідэнтыфікацыі аўтарства. Дзякуючы ўпарадкаванаму Наталляй Гардзіенкай архіву, асабліва ліставанню Льва Гарошкі, я звярнуўся да лістоў, якімі абменьваліся Тодар Мазура і Леў Гарошка з 1946 па 1954 гады. І, на маю радасць, у лістах за 1953 год чорным па белым было пазначана, што Тодар Мазура напісаў апавяданне пра беларуса па-французску, прызначанае бельгійцам, як падкрэсліў сам аўтар.

Улетку 1953 года асабліва інтэнсіўна два беларусы ліставаліся наконт апавяданьня па-французску. Тодар Мазура жадаў надрукаваць апавяданне ў Бэльгіі, але ж супрацоўніца рэлігійнага выдавецтва мадэмуазэль Сасэн параіла яму звярнуцца ў французскае выдавецтва, а яшчэ лепей да сп. Льва Гарошкі. Праз вялікую занятасць а. Гарошка не адразу змог азнаёміцца з тэкстам. Адсюль пачалася незадаволенасць маладога аўтара, які вельмі чакаў ацэнкі. Калі ж а. Гарошка прачытаў апавяданне, пахваліў актуальнасць і важнасць паслання, але ж параіў дапрацаваць тэкст моўна і літаратурна, то Т. Мазура ўступіў у спрэчку, выказаўшы нязгоду. Невядома, ці дапрацаваў потым свой тэкст Тодар Мазура, але вядома, што ён так нідзе і не быў апублікаваны. Таму і апынуўся ў архіве Л. Гарошкі. Сам тэкст быў напісаны ў 1952-1953. З лістоў за 1950-1951 бачна, што ў Лювене Тодар Мазура актыўна вывучаў французскую мову: ён пастаянна падкрэсліваў, што мовай авалодвае хутка і аддае ёй усе сілы. І, такім парадкам, ён схавана спрабаваў свае літаратурныя сілы па-французску.

Дзівосны, скрытны, упарты, патрабавальны, дасюль слаба вядомы (і зусім невядомы як пісьменнік) Тодар Мазура здзівіў усіх тым, што пасьля дзесяцігоддзяў жыцця ў эміграцыі ў Італіі, Бельгіі і Вялікабрытаніі, вярнуўся ў БССР. Дасюль застаецца загадкай, калі і дзе ён памёр. Але ж застаўся ягоны кур’ёзны, першы франкамоўны тэкст беларускай літаратуры XX стагоддзя (своеасаблівая прэм’ера!), які варта выдаць і перакласці для беларускага чытацтва. Перадусім, каб лепей зразумець самага зніклага пісьменніка, публіцыста і грамадскага дзеяча, змаргіналізаванага ў вачах дыяспары праз вяртанне ў СССР.

Аўтабіяграфічныя элементы хаваюцца ў шматлікіх апісаннях – гэта таксама пралівае святло на аўтара. Аповесць цікава і дакументальна дапамагае рэканструяваць лёс беларуса, якога вайна выкінула на заходні бераг, і лепей зразумець пошукі і праблемы тагачасных беларусаў-эмігрантаў. Яшчэ адна прычына публікацыі аповесці Тодара Мазуры крыецца ў наладжванні нябачнай сувязі паміж Беларуссю і Бельгіяй, распачатай задоўга да незалежнасці Беларусі і прызнання яе Бельгіяй. Зрэшты, счакаўшы 70 год, вяртанне Тодара Мазуры як пісьменніка, падштурхне працягнуць пошукі ягоных слядоў у самой Беларусі, куды ён вярнуўся за савецкім часам па дасюль невядомай прычыне.

**Уладзіслаў Гарбацкі, novychas.online**

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА “РУНЬ” У ВІЛЬНІ ПЕРАХОДЗІЦЬ У ІНТЭРНЭТ

Асноўная беларуская перыёдыка ў Вільні – газета “Рунь” адзначыла свой 25-гадовы юбілей пераходам у новую форму існавання. Падобна іншым медыям у час новых тэхналогій рэдакцыя газэты прыняла рашэнне працягнуць сваю дзейнасць у электронным варыянце, у інтэрнэце. Гэтаксама, як і наша газета “Беларус”. Выдаўцы спадзяюцца, што новы фармат дазволіць газеце больш аператыўна рэагаваць на выклікі часу, і запрашаюць да супрацоўніцтва.

Трэба адзначыць, што бібліятэка пры Саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне рэгулярна атрымлівала асобнікі газеты і цяпер іх можна там паглядзець, каб пераканацца, што газета была вельмі змястоўным выданнем, у якім можна знайсці разнастайныя звесткі пра беларускае жыццё ў Вільні, у цэлай Літве, як у наш час, так і ў гістарычным аспекце.

РУНЬ
hazetarun.info

Раім нашым чытачам не пакідаць без увагі газету “Рунь” і далей наведваць яе старонкі ў інтэрнэце па адрасе: hazetarun.info. Тым больш, што Вільня стала цяпер адным з самых актыўных беларускіх цэнтараў у замежжы.

**bielarus.info**

навіны

# ФІЛЬМ БЕЛАРУСКАЙ РЭЖЫСЁРКІ ТРАПІЎ У ПРАГРАМУ КРУТОГА ФЭСТУ

Фільм беларускай рэжысёркі Ксеніі Галубовіч I Made a Mistake Coming Here трапіў на фестываль East Doc Forum, які пройдзе ў Празе з 24 па 30 сакавіка.



Ксенія Галубовіч – рэжысёрка і фатографка, выпускніца Акадэміі мастацтваў, былая супрацоўніца студыі "Летапіс" ("Беларусьфільм"), супрацоўнічала з беларускімі незалежнымі рэдакцыямі. У ліпені 2021-га Ксенію затрымалі ў Мінску падчас здымак у дзіцячым хоспісе. Супрацоўнікі КДБ зрабіліператрус, а пасля допыту адпусцілі.

*I Made a Mistake Coming Here* – дакументальны фільм пра бежанцаў, які рэжысёрка пачала рабіць, калі на беларускіх межах з Літвой і Польшчай здарыўся міграцкі крызіс. Гэты праект Ксенія робіць у супрацоўніцтве з французскім прадзюсарам Луі Бадмонам (Louis Beaudemont).

*East Doc Forum* прыдумалі ў 2001 годзе, і з таго часу фестываль стаў найбуйнейшым ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне. Пры падтрымцы фестывалю знялі ўжо больш за 300 дакументальных фільмаў.

**budzma.org паводле citydog.io**

# ПОЛЬШЧА ВЫДАЕ ПРАЯЗНЫ ДАКУМЕНТ ЗАМЕЖНІКА БЕЛАРУСАМ З ГУМАНІТАРНЫМ ВНЖ

З 1 студзеня 2023 года грамадзяне Беларусі, якія маюць дазвол на часовае пражыванне ў Польшчы па гуманітарных прычынах (у адпаведнасці з артыкулам 186 пунктам 1 падпунктам 9 закона аб іншаземцах), могуць атрымаць польскі праязны дакумент для замежніка.

"Польскі праязны дакумент выдаецца тэрмінам на 1 год і замяняе сабой у паездках за мяжу ваш пашпарт у выпадках, калі дакумент страчаны, пашкоджаны або непрыдатны для выкарыстання, а атрымаць новы пашпарт вы не можаце з-за рызыкі падвергнуцца рэпрэсіям у выпадку вяртання на радзіму", – паведамляе Цэнтр беларускай салідарнасці.

Падаць заяву на выдачу польскага праязнога дакумента для замежніка можна ў ваяводства па месцы жыхарства.

На 30 лістапада 2022 года ў Польшчы пражывалі 68.684 грамадзяніна Беларусі з адпаведнымі дазвольнымі дакументамі.

**novychas.online**

in memoriam

# ПАМЕРЛА ЎДЗЕЛЬНІЦА БЕЛАРУСКАГА ПАСЛЯВАЕННАГА СУПРАЦІВУ ЛЕАКАДЗІЯ ШЫШЭЯ

Пра смерць спадарыні Лекадзіі Шышэі (01.06.1928–18.01.2023) ў сваім фэйсбуку паведаміла Людвіка Кардзіс.



Удзельніца беларускага паваеннага супраціву, сябра падпольнай слонімскай арганізацыі "Чайка" і былая зняволеная ГУЛАГу Леакадзія Шышэя (дзяв. Кавальчук) нарадзілася 1 чэрвеня 1928 года ў вёсцы Церахоўшчына Слонімскага павета Навагрудскага ваяводства ў Польскай Рэспубліцы.

У 1946 годзе далучылася да падпольнай беларускай арганізацыі "Чайка", якая планавала змаганне за нацыянальныя правы, годнасць, культуру, мову, гісторыю, свабоду і незалежнасць беларусаў. Удзельнічала ў першых сходах арганізацыі. У сярэдзіне 1947 года арганізацыя была выкрытая, а Леакадзія Шышэя арыштаваная і асуджаная на восем з паловай гадоў. Разам з ёй у ГУЛАГу адбывала пакаранне славутая беларуская паэтка Ларыса Геніюш.

У 1954 годзе вызвалілася з канцлагераў і разам са сваім мужам прыехала ў Вільню, дзе і жыла да апошняга часу.

ЗБС "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні блізкім і сябрам спадарыні Леакадзі Шышэі.

**ЗБС "Бацькаўшчына"**

## Беларускі каляндар памятных дат на люты 2023 года

**2 лютага**
- 185 гадоў таму, у 1838-м, нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Павешаны ў 1864-м.
- 40 гадоў таму, у 1983-м, загінуў Мікола Прашковіч, літаратуразнавец.

**4 лютага**
- 215 гадоў таму, у 1808-м, нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры. Памёр у 1884-м.
- 45 гадоў таму, у 1978-м, памёр Аркадзь Куляшоў, паэт.

**6 лютага**
- 125 гадоў таму, у 1898-м, нарадзіўся Леў Акіншэвіч, гісторык, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1980-м.

**10 лютага**
- 155 гадоў таму, у 1868-м, нарадзіўся Карус Каганец (сапр. Казімір Кастравіцкі), пісьменнік, мастак. Памёр у 1918-м.
- 165 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Станіслаў Булак-Балаховіч, кіраўнік паўстання супраць савецкай улады. Загінуў у 1939-м.
- 85 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Максім Гарэцкі, пісьменнік, літаратуразнавец, фалькларыст, мысляр.

**14 лютага**
- 75 гадоў таму, у 1948-м, у Рыдзе было створана Згуртаванне Беларусаў у Аўстрыі.

**15 лютага**
- 160 гадоў таму, у 1863-м, загінуў Станіслаў Сангін, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**16 лютага**
- 265 гадоў таму, у 1758-м, нарадзіўся Юльян Нямцэвіч, пісьменнік, палітычны дзеяч, гісторык. Памёр у 1841-м.

**18 лютага**
- 130 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Максім Гарэцкі, пісьменнік, літаратуразнавец, фалькларыст, мысляр. Расстраляны ў 1938-м.

**19 лютага**
- 115 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Станіслаў Шушкевіч, пісьменнік. Памёр у 1991-м.

**20 лютага**
- 35 гадоў таму, у 1988-м, памёр Павел Каруза, кампазітар, этнамузыказнавец.

**22 лютага**
- 110 гадоў таму, у 1918-м, памерла Соф'я Кавалеўская, этнографка, пісьменніца.

**23 лютага**
- 120 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Вінцэнт Жук-Грышкевіч, гісторык, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Вялікабрытаніі, Нямеччыне і Канадзе, старшыня Рады БНР ў 1970–1982 гг.

**27 лютага**
- 100 гадоў таму, у 1923-м, у Празе створаны клуб «Беларускі сакол» – арганізацыя беларускіх студэнтаў.

**28 лютага**
- 110 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Аляксей Шудзейка, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1969-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 1 (248), студзень 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com